# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.*

№ 9 (90). 25 лютага — 3 сакавіка 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 15 тыс. руб.


**ДЗЕНЬ АБАРОНЦА АЙЧЫНЫ**

## БЕЗ ПРАВА НА ПАМЫЛКУ

**19 лютага зноў "мініравалі" слонімскі вакзал. Невядомы пазваніў у гродзенскі штаб грамадзянскай абароны і паведаміў, што на вакзале знаходзіцца выбуховае прыстасаванне.**

Будынак быў ачэплены міліцыяй на той час, пакуль сапёры шукалі міну. Як і раней, яе там не аказалася.

*(Працяг на стр.3)*

Фота Мікалая СУПРУНА

*НА ЗДЫМКУ: начальнік інжынернай службы слонімскай брыгады падпалкоўнік Мікалай Папоў (злева) і камандзір сапёрнага батальёна маёр Сяргей Фядосік*

## Узнагарода за сына

**На ўрачыстым сходзе, прысвечаным Дню абаронца Айчыны, які адбыўся ў панядзелак 22 лютага ў РДК, бацькам лейтэнанта Дзмітрыя Сідарава быў уручаны ордэн Мужнасці Расійскай Федэрацыі.**

Дзмітрый Сідараў родам са Слоніма. У мінулым годзе ён закончыў Калінінградскае вышэйшае ваенна-марское вучылішча. Служыў на Балтыйскім моры ў расійскіх пагранвойсках. Пры выкананні службовых абавязкаў, лейтэнант Дзмітрый Сідараў загінуў. Указам прэзідэнта Расіі, за мужнасць і адвагу ён узнагароджаны ордэнам Мужнасці пасмяротна.

Сяргей ЧЫГРЫН

## ГУЛЛИВЕР ИЗ ТУЛОВА

### Рассказ о Спортсмене с большой буквы, мастере спорта международного класса Владимире Михуте

Фото Николая СУПРУНА

Мастер спорта международного класса Михута Владимир Михайлович родился на Зельвенщине в 1959 году. Рост – 205 см, вес – 120 кг. Трижды чемпион СССР в 80-е годы, дважды вице-чемпион, семь раз выигрывал первенство Вооруженных сил, чемпион спартакиады дружественных армий и, наконец, обладатель Кубка кубков Европы по гандболу.

Пожалуй, не найти на Гродненщине еще одного такого "игровика", И неизвестно, появится ли он в ближайшее время...

*(Продолжение на стр.8)*

## Справа Алега Дэйкі накіравана на перагляд

**Менавіта такое рашэнне днямі прыняла абласная пракуратура, якая адмяніла пастанову памочніка слонімскага міжрайпракурора Фёдара Віктарава ад 24. 04. 98 г. аб прыпыненні крымінальнай справы па факту смерці Алега Дэйкі.**

Нагадаем, што смерць 29-гадовага Алега Дэйкі пры загадкавых абставінах была зафіксавана 5 снежня 1997 года ў слонімскім медвыцвярэзніку.

Абласная пракуратура дала пісьмовае ўказанне слонімскай міжрайпракуратуры высветліць усе абставіны смерці Алега Дэйкі і ўзяла пад свой кантроль ход расследавання гэтай справы.

Валодзя ЯНЧУК

## Безвыніковае турнэ

**Генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Мастоўдрэў" Віктар Буры ў складзе дэлегацыі ездзіў у Германію на выставу мэблі.**

Мастаўчане вазілі на паказ свае самыя лепшыя ўзоры прадукцыі: двух'ярусны ложак, набор для прыхожай, набор для гасцінага пакоя. Уся гэтая мэбля была выраблена з натуральнага дрэва. Нягледзячы на гэта, кантракты з замежнымі пакупнікамі не былі заключаны.

Дарэчы, некалькі месяцаў назад генеральны дырэктар Буры быў на падобнай выставе ў Злучаных Штатах Амерыкі. Тая паездка таксама была безвыніковая.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Пацалунак са слупом

**Старшыня Зэльвенскага райвыканкама Віктар Будрэвіч на пэўны час застаўся без персанальнай машыны "Ніва".**

Цяпер гэты расійскі джып знаходзіцца ў слонімскай аўтамайстэрні, дзе спецыялісты спрабуюць надаць аўто належны выгляд. Рэч у тым, што 14 лютага, на дзень Святога Валянціна, гаспадар выканкамаўскай "Нівы" не справіўся з кіраваннем і стукнуўся ў слуп лініі электраперадач. Аварыя здарылася ў 18.20 на шашы Зэльва – Слонім паміж вёскамі Старое Сяло і Снежная. Адказнасць за пашкоджаную машыну ўзяў на сябе выканкамаўскі шафёр.

Іван ЦІМАФЕЙЧЫК

**ПРОШУ СЛОВА**

## Кто поможет больнице?

**Думаю, что та проблема, о которой я хочу рассказать, найдет отклик на страницах вашей газеты и не останется без внимания со стороны властей.**

А речь идет о слонимской инфекционной больнице. Нет, я не буду жаловаться на нехватку лекарств – к этому давно мы уже привыкли.

Недавно мне с маленьким ребенком пришлось побывать в инфекционной больнице. Это еще новое здание, в каждой, довольно просторной палате – ванна, туалет, но... Я смогла там выдержать не более суток (благо заболевание у малыша было не опасное). А там ведь лежат матери с детками, которым нет еще и года. Нас положили в палату №15. Вы когда-нибудь видели, чтобы в больнице сквозь стены дул ветер и на голову сыпалась штукатурка? Мало того, в палате температура выше 15°С не поднимается.

Неужели не с кого спросить за такое безобразие? Есть же строители, которые сдавали это здание, есть комиссия, которая его принимала. В конце концов, у нас в городе есть власть, которая должна заботиться о больных и отремонтировать отопление, если оно плохо работает.

Наверняка, если бы дети какого-нибудь городского начальника лечились в подобных условиях, то он не остался бы равнодушен и пытался бы что-то сделать.

Я пишу от лица всех пациентов инфекционной больницы. Врачи и медперсонал говорят, что неоднократно обращались, писали в горисполком, но дело дальше обещаний не сдвинулось...

Светлана ИВАНОВА

**P.S.** Главный врач инфекционной больницы Андрей Нагай в разговоре с корреспондентом "ГС" подтвердил, что факты, приведенные в письме, соответствуют действительности. Тем не менее он отметил, что недоработки строителей постоянно исправляются, но это не дает желаемых результатов. Необходим капитальный ремонт. С этим вопросом он вместе с главным врачом ТМО Александром Гулинским неоднократно, начиная с 1996 года, обращался к председателю горисполкома Олегу Лактюшину. Однако сдвигов пока не видно.

**ПОШТА**

## Адказ ад Міхаіла Чыгіра

**У мінулым нумары "ГС" было надрукавана інтэрв'ю з экс-прэм'ерам Міхаілам Чыгіром, які адным з першых беларускіх палітыкаў аб'явіў аб сваім удзеле ў прэзідэнцкіх выбарах, што павінны адбыцца 16 мая 1999 года.**

На днях па факсу мы атрымалі адказ ад Міхаіла Мікалаевіча на нашу публікацыю, які змяшчаем ніжэй.

Інфармацыйна-палітычнаму выданню "Газета Слонімская". Калі і на месцах ёсць такія людзі і сродкі масавай інфармацыі – у нас ёсць будучыня. Усяго найлепшага. М. Чыгір 20.02.99

## Надоело терпеть

**Пишут Вам жильцы дома №51, что на Брестской улице. Дело в том, что после установки счетчика по учету холодной воды, ее расход на 1 человека вырос по сравнению с рядом стоящими домами (№53, №55) в два и более раза.**

Хотя учет холодной воды там также производится по аналогичным счетчикам. Например, за февраль за пользование холодной водой и канализацией в среднем на одного жильца было начислено почти по 300 тысяч рублей.

Нетрудно подсчитать, сколько предстоит заплатить семье из четырех человек, которая проживает в однокомнатной квартире. На неоднократные обращения жильцов нашего дома в ЖЭС-2 проверить счетчики на предмет их исправности никакой реакции не последовало. Мало того, что периодически идет ржавая вода, так она еще и не доходит в квартиры верхних этажей, особенно в выходные и праздничные дни.

На основании вышеизложенного заявляем, что в случае непринятия мер по решению данного вопроса до конца февраля 1999 года, оплата за пользование водой за февраль 1999 года жильцами производиться не будет.

*И.М.Мандрикевич, С.С.Седлер, Е.И.Исаева, С.Е.Филипович, И.К.Пучко, Н.Ф.Богдан, всего 73 подписи*

**АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ**

## ДАВАЦЬ ЦІ НЕ ДАВАЦЬ НА ЛАПУ ЭСКУЛАПУ?

Пра гэта нідзе не напісана, але ведаюць усе: калі хочаш хутчэй папраўвіцца, трэба зацікавіць доктара. Эскулапы не прымушаюць, не вымагаюць, але калі штонебудзь дасі, то не адмаўляюцца. Хворыя даюць з надзеяй, што лячэнне пойдзе хутчэй. І, шчыра кажучы, рэдка калі памыляюцца. Раз доктар ад пацыента нешта ўзяў, то ён ужо абавязаны адносіцца да яго больш уважліва, бо нявылечаны хворы, скажа другому:

– Гэтаму доктару нічога не давай. Усё роўна карысці ніякай.

А каму патрэбна такая слава?

*(Працяг на стр. 2)*

**КУРСЫ ВАЛЮТ**

по состоянию на 23.02.99 г. (в тыс.руб.)

| | USD | | DEM | | RUR | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пок. | Прод. | Пок. | Прод. | Пок. | Прод. |
| "Беларусбанк" | 265,0 | 270,0 | 147,0 | 151,0 | 11,2 | 11,8 |
| "Белагропромбанк" | 270,0 | – | 151,0 | – | 11,0 | 11,8 |
| "Приорбанк" | 300,0 | – | 168,0 | – | 11,5 | – |
| "Белпромстройбанк" | 270,0 | 275,0 | 153,0 | 154,0 | 11,5 | 12 |
| Курс "черн. рынка" | 300,0 | 320,0 | 160,0 | – | 11,0 | – |

АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

# ДАВАЦЬ ЦІ НЕ ДАВАЦЬ НА ЛАПУ ЭСКУЛАПУ?

Некаторыя людзі без энтузіязму падпарадкоўваюцца гэтым няпісаным законам. Маўляў, дактары ж давалі клятву Гіпакрата. Прабачце, шаноўныя, але ж славуты Гіпакрат жыў даўно. Ён не ведаў, што яговыя паслядоўнікі ў нашай краіне будуць мець жабрацкую зарплату і ледзь зводзіць канцы з канцамі. А каб ведаў, то можа і не асудзіў бы іх. Уявіце сабе: чалавек вучыцца столькі гадоў у медыцынскім інстытуце, куды не толькі не ўсякі паступіць, але і вучыцца не ўсякі зможа. Цяжка. Нашы дактары, каб жыць больш-менш па-людску, вымушаны капацца ў агародзе, трымаць курэй, свіней. Хіба так павінна быць? Па-мойму, не. Прыйшоўшы з работы, доктару трэба адпачыць, а замест гэтага ён цягае ў хлеў вёдры з мешанкай, клапоціцца, дзе ўзяць корм курам ды свінням. Вядома, не ўсе дактары трымаюць гаспадарку, але тыя, якія жывуць у прыватных дамах, вымушаны яе трымаць, бо і дзяцей вучыць трэба, і самім хочацца апрануцца не горш за іншых.

Мне могуць запярэчыць: не шкадуй іх вельмі, амаль кожны працуе на паўтары, а то і дзве стаўкі. А хіба добра, калі доктар набярэ сабе шмат хворых? Зразумела, што столькі ўвагі, колькі патрэбна кожнаму хвораму, ён даць не можа. Проста не хапае ні фізічных, ні душэўных сіл.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што мы нясём дактарам падарункі. Калі чалавеку дрэнна, калі боль і трывога засланяюць усё, ён бяжыць не да банкаўскага служачага, не да настаўніка, не да журналіста, а да доктара. І калі, дзякуючы яго майстэрству і старанням, бяда адступае, калі хвораму зноў усміхнецца жыццё, то ад радасці і ўдзячнасці хочацца падарыць выратавальніку ўвесь свет, не тое, што якую-небудзь дробязь. А хіба можна з нечым параўнаць шчасце маці, калі доктар верне жыццё і здароўе яе дзіцяці? Дык ці трэба асуджаць такога спецыяліста, калі ён узяў нешта ад удзячнага чалавека?

Дактары не бралі б ад нас ніякіх падарункаў, каб мелі добрую зарплату, каб маглі на яе па-людску пражыць. І мы, пацыенты, адчувалі б сябе больш спакойна і ўпэўнена, каб маглі заплаціць за лячэнне ў касу, а не бегаць па бальніцы і шукаць, дзе б у цішы кабінета ці ў калідоры даць доктару той няшчасны падарунак. Але для гэтага мы таксама павінны добра зарабляць. Інакш аб платнай медыцыне і гаворкі быць не можа.

На мой погляд, несумленна робіць толькі той доктар, які бачыць, што хвораму дапамагчы не можа, а падарунак бярэ. Ад безнадзейна хворых браць грэх. І перад Богам, і перад людзьмі.

Я ведаю доктара, які за ўсё сваё жыццё нічога, акрамя кветак, ад хворых не ўзяў. Ён урач вышэйшай катэгорыі, жыве на адну зарплату, ездзіць на веласіпедзе, хоць мае ўжо пенсійны ўзрост. Гэты чалавек нікому не адмовіць у дапамозе, хоць падніммі яго сярод ночы. І ўсё бескарысліва. Ён — сімвал дабрыні і міласэрнасці.

Не трэба думаць, што дактары ў наш час толькі і чакаюць падарункаў. Што ім можа даць старэнькая бабулька, якая ўсё жыццё адпрацавала ў калгасе і цяпер атрымлівае маленькую пенсію? Дактары гэта бачаць, разумеюць і лечаць не горш, чым і тых, хто можа нешта даць.

Так што задачу: даваць ці не даваць "на лапу" эскулапу кожны павінен рашаць сам, зыходзячы са сваіх фінансавых магчымасцяў і пагляду на жыццё.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ЗДАРЭННІ

## Пакваліліся на бульбу

**У вёсцы Мядзвінавічы Дзятлаўскага раёна з ямы, дзе захоўваў бульбу грамадзянін Н., было ўкрадзена 300 кілаграмаў клубняў.**

У той жа дзень супрацоўнікі дзятлаўскай міліцыі знайшлі злодзея, а дакладней — зладзейку. Ёй аказалася жыхарка гэтай жа вёскі.

## Штраф за самагонку

**Як Заблоцкі на мыле, зарабілі на гандлі самагонкай чатыры жыхары Дзятлаўскага раёна.**

Усе яны затрыманы на адным тыдні. Двое ўжо аштрафаваны, па дзесяць мільёнаў рублёў кожны, двое другіх чакаюць пакарання.

## Краў кармы

**Узбуджана крымінальная справа супраць працаўніка Малашастакоўскай жывёлагадоўчай фермы калгаса "Войневічы", што ў Дзятлаўскім раёне.**

Раней ён ужо быў затрыманы за крадзёж фуражнай мукі і камбікорму. Цяпер украў кармоў на 371 тысячу рублёў.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Яма, як сімвал "рынкавага сацыялізму"

**Яма, глыбінёй болей трох метраў і шырынёй пяць метраў, што знаходзіцца ля мастоўскага ўнівермага, мае сваю працяглую гісторыю.**



Фота Мікалая СУПРУНА

З'явілася яна на месцы аварыі гарадской каналізацыі болей як тры гады таму. Тады яму абгарадзілі дошкамі, і ў такім выглядзе яна праіснавала да жніўня 1997 года. Толькі агульнарэспубліканскі фестываль "Дажынкі" і прыезд прэзідэнта А.Лукашэнкі змусіў камунальнікаў правесці адпаведны рамонт і засыпаць яму. Але рамонт быў праведзены няякасна, і таму ў мінулым годзе яма з'явілася зноў. Камунальнікі адкапалі трубу, паглядзелі на яе і пакінулі. На гэты раз яму ніхто не агароджваў...

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Даплацілі

**Апошнім часам рабочыя акцыянернага таварыства "Мастоўдрэў" былі вельмі здзіўлены, калі пасля атрымання месячнага заробку, што ў сярэднім складае пяць мільёнаў рублёў, яны атрымалі яшчэ даплату.**

Праўда, людзям ніхто не патлумачыў, што гэта за грошы. Некаторыя рабочыя выказваюць меркаванне, што такое павышэнне зарплаты выклікана ў выніку праверкі прадпрыемства камісіяй кантралюючых органаў.

**Антон МАКЕЙ**

ЖЫЦЦЁВАЯ БЫЛЬ

# КУДЫ ПАДЗЕЛАСЯ ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ?

Крама на ўскрайку была пустая. Толькі дзве незнаёмыя жанчыны стаялі ля далёкага прылаўка і аб нечым шапталіся. Бачна было, што купляць яны нічога не збіраліся.

А яна стаяла па той бок прылаўка ды думала аб нечым сваім. Сёння Коля, яе муж, павінен быў уладкавацца на працу. Гэта хоць нейкім чынам магло стабілізаваць бюджэт іх маладой сям'і. Бо да гэтага часу ён не працаваў амаль паўгода.

У краму зайшла старэнькая кабета, якая бывае тут даволі часта, відаць, жыве непадалёку. Жанчына падышла да Алены.

— Дзіцятка, дай паўтара кілаграма цукру.

Маладзіца, як магла, ветліва адказала:

— Норма водпуску — кілаграм.

— У майго ўнучка сёння дзень нараджэння, хачу пачаставаць яго тортам ды іншым печывам. Кілаграма будзе мала. Няўжо мне, старому чалавеку, выйсці з крамы ды зноў заходзіць. Пасля гэтага ты мне павінна будзеш зноў кілаграм адпусціць, — настойвала на сваім жанчына.

— Я вас разумею, але і вы зразумейце мяне — нельга.

Алена вагалася. Жанчына была ўзросту яе бабулі. Недарэчнасць сённяшніх забаронаў прадаўшчыца цудоўна разумела.

— Няўжо лішнія паўкілаграма — такое злачынства?

Яшчэ некалькі хвілінаў пакупніца літасціва прасіла, і Алена саступіла. Яна ўзважыла цукар і хутка разлічыла жанчыну. Было бачна, як, выходзячы з крамы, бабулька кіўнула галавою тым дзвюм жанчынам, і яны спешна рушылі да прылаўка. Адна з іх прама да твару прадаўца паднесла пасведчанне інспектара падатковай інспекцыі, а другая прашыпела:

— Вы парушылі нормы водпуску тавараў.

— Будзем пісаць пратакол, — цвёрда засведчыла першая.

— Як атрымаеш дваццаць мільёнаў штрафу, дык будзеш знаць, як трэба гандляваць.

Жанчыны гаварылі спешна, перабіваючы адна адну.

— За гэта можна і з працы звольніць.

У душы Алены быццам нешта надарвалася. Яна не пярэчыла, не прасіла літасці. Галаву свідравала адна думка: калі Коля не ўладкуецца на працу, а яе звольняць — як ім тады жыць? Ды яшчэ ў галаве прамільгнула думка: "Мая бабуля так не зрабіла б."

Да кабетаў далучылася загадчыца крамы:

— Мы ж цябе папярэджвалі.

Алене зрабілася блага. Толькі прыбіральшчыца, цётка Клава, што наводзіла парадак у падсобцы, запярэчыла:

— Што ж вы робіце, нелюдзі! Ёй праз паўмесяца ў дэкрэтны водпуск ісці.

Але з прысутных яе ніхто не пачуў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# ЦІ ВЫЖЫВЕ НАША КУЛЬТУРА?

**На 1999 год зацверджаны Дзяржаўны бюджэт Беларусі, дзе на культуру і мастацтва выдаткавана 0,46 працэнта, тым часам як у іншых краінах на культуру выдзяляецца ад трох да трынаццаці працэнтаў бюджэтных сродкаў.**

Падзяліцца думкамі на гэты конт я папрасіў тых, хто працуе ў галіне культуры Слоніма.

**Анатоль Цярэнін, *загадчык аддзела культуры Слонімскага райвыканкама:***

— Некалькі гадоў назад у Беларусі быў абнарадаваны закон аб культуры. У ім сказана, што на мастацтва і культуру ў год павінна выдзяляцца не менш трох працэнтаў фінансаў з бюджэту краіны. Сёлета выдаткавана менш аднаго працэнта, гэта значыць, амаль нічога. Адзінай надзеяй на выжыванне культуры застаецца мясцовы бюджэт і дапамога людзей, якія зацікаўленыя ў развіцці нашай нацыянальнай культуры і мастацтва.

Дзякуючы фінансаванню з мясцовага бюджэту, у мінулым годзе наш аддзел культуры купіў касцюмы для хору ветэранаў, для ансамбля "Рабіначка", камплект інструментаў для аркестра народных інструментаў, капіравальную тэхніку, неабходную літаратуру, адрамантаваў некалькі ўстаноў культуры. Рамонт за сродкі мясцовага бюджэту будзе працягвацца і сёлета. Плануем адрамантаваць дах раённага дома культуры, фасад краязнаўчага музея, ажыццявіць капітальны рамонт Дзераўноўскага і Жыровіцкага дамоў культуры, Кастровіцкую сельскую бібліятэку. А што датычыць тых 0,46 працэнта, выдзеленых з бюджэту дзяржавы на культуру, дык тут нават і каментарый не патрэбны.

**Мікалай Варвашэвіч, *заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, рэжысёр Слонімскага беларускага драмтэатра:***

— Гэтай лічбай урад канчаткова "кладзе на лапаткі" нашу культуру і мастацтва. На культуру ў Беларусі, як і ў былым Савецкім Саюзе, выдзяляюцца сродкі па прынцыпу: тое, што засталося, няхай будзе культуры. Грошай на культуру ні тады, ні цяпер не хапала і не хапае. Тым не менш за сорак гадоў працы ў культуры я не памятаю, каб з бюджэту выдаткоўвалі ўсяго 0,46 працэнта. Гэта трагедыя. У іншых краінах свету на мастацтва і культуру адпускаецца дзесьці ад трох да шасці працэнтаў бюджэтных сродкаў, а ў некаторых краінах да 13 працэнтаў. А ў нас амаль нічога.

У апошні час у Беларусі з'явілася нейкія фонды. Гэта і прэзідэнцкі фонд, і саўмінаўскі фонд, і інш. Але скуль і як гэтыя фонды папаўняюцца? Мільярды рублёў ідуць на "Дажынкі", "Віцебскія базары", дзе іх прагульваюць і прапіваюць. Калі б нам хоць палову гэтых грошай, мы ў Слоніме за два гады пабудавалі б будынак для нашага тэатра.

**Мікалай Адамчык, *дырэктар Слонімскага раённага дома культуры:***

— Якія сродкі выдзяляюцца на культуру, такі выгляд яна і мае. Тым больш сёння, калі ўстановам культуры жывецца вельмі цяжка. Тое, што было куплена некалькі гадоў назад — зношваецца, а набыць нешта новае проста немагчыма. Мы сёння для РДК не можам купіць піяніна. А за адзін магнітафон у мінулым годзе аддалі 72 мільёны рублёў. А ў РДК 22 калектывы, і кожнаму трэба магнітафон. Некаторыя ўдзельнікі гэтых калектываў прынősяць сваю апаратуру з дому. Праўда, нас выратоўвае яшчэ спецрахунак. Сюды паступаюць грошы, якія мы зарабляем самі. Але гэта таксама дробязь. Ды і зарплата ў нас зусім малая. Што будзе далей з нашай культурай — мне нават цяжка ўявіць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 24 лютага 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 507

НАША ІНТЭРВ'Ю

# У МАЙСТЭРНІ СКУЛЬПТАРА ІВАНА МІСКО СТВАРАЕЦЦА ПОМНІК ЛЬВУ САПЕГУ

Апошнія месяцы наш зямляк (Іван Міско нарадзіўся ў вёсцы Чамяры) працуе над праектам помніка Льву Сапегу, які павінен быць устаноўлены ў Слоніме. Менавіта на гэту тэму і адбылася гутарка карэспандэнта «ГС» з вядомым скульптарам.

***— Іван Якімавіч, як ідзе праца над будучым помнікам?***

— Мною зроблены з пластыліну два эскізы помніка. І калі на першым Леў Сапега задумлівы, трохі стомлены, дык на другім — самаўпэўнены, жыццярадасны. Ён сядзіць на камяні, у левай руцэ трымае кнігу (Статут Вялікага княства Літоўскага), а ў правай — булаву, сімвал канцлерскай улады...

***— А што далей?***

— Калі будзе закончана работа над эскізнай часткай праекта, яго мусіць зацвердзіць экспертны манументальна-мастацкі савет пры Міністэрстве культуры. Пасля гэтага этапа — робіцца з пластыліну рабочая мадэль. Затым яна адліваецца з гіпсу і ідзе ў вытворчасць. Рабочую мадэль павялічваюць да адпаведнага памеру. Сама фігура Льва Сапегі будзе ад двух з паловай да трох метраў. Помнік выканаюць з бронзы і граніту. Праект помніка, сярод іншых, што мусяць з'явіцца на Беларусі, яшчэ павінны зацвердзіць у адміністрацыі прэзідэнта. Але, як бачыце, зацверджанняў я не чакаю, а працую...

***— У пэўнай ступені работа над помнікам Сапегу шмат у чым для Вас новая. Раней Вам не даводзілася працаваць над партрэтамі людзей далёкага сярэднявечча...***

— Для мяне тут усё новае. Даводзіцца вывучаць аддзенне таго часу, гісторыю. А гэта дае магчымасць дакрануцца да сівой даўніны, думкамі накіравацца туды, у часы Сапегі... У сувязі з гэтым маю шэраг праблем, напрыклад, з адзеннем XVII стагоддзя. Мне трэба як мага дакладней ведаць, як апраналіся вяльможы таго часу. Я не хачу штосьці прыдумваць, бо лічу, што павінна быць гістарычная праўда. Шмат хто абяцаў мне дапамагчы ў гэтым, але ўсё словамі і скончылася. Нават партрэтаў Сапегі я маю вельмі мала!..

***— Ці былі Вы ўжо на месцы, дзе будзе ўстаноўлены помнік?***

— Так, я там быў. Мы ўжо вызначылі месца для помніка ў скверы на плошчы Леніна. І ён будзе там добра глядзецца. Аднак ёсць неабходнасць перарабіць увесь сквер, упарадкаваць яго.

***— Што канкрэтна там трэба змяніць?***

— Неабходна прыбраць некаторыя дрэвы. Але зрабіць гэта трэба акуратна, прыгожа... У ідэале дрэвы ў скверы, у сукупнасці, павінны стварыць прыгожую каляровую гаму і зімой, і летам. Тады і сквер будзе глядзецца зусім па-іншаму. А цяпер ён занядбаны...

***— І хто будзе гэтым займацца?***

— Пытанне гэта актуальнае. Трэба вызначыцца, што бярэ на сябе горад. Ці ёсць сродкі на добраўпарадкаванне сквера? І я лічу, што трэба прывесці ў належны выгляд не толькі тое месца, дзе будзе ўсталяваны помнік, але і ўвесь сквер. Інакш гэта будзе падобна на тое, калі ты абуў новыя туфлі, але ходзіш у старым касцюме... Наогул, на гэта не трэба вялікіх выдаткаў. І я спадзяюся, што ўжо ранняй вясной рэканструкцыя будзе зроблена.

***— Напэўна, Ваша творчая праца не абмяжоўваецца работай над эскізамі помніка Сапегу...***

— Сапраўды, гэта так. Вось рыхтуюся да выставы, прысвечанай космасу, якая адкрыецца 2 красавіка ў Мінску. На адкрыцці будуць касманаўты Лявонаў і Джанібекаў, мастак-фантаст з Масквы Сакалоў, графік Паплаўскі. Цяпер я рыхтую да выставы свае работы...

А вось нядаўна мне патэлефанавала са Слоніма ўпраўляючая справамі райвыканкама Лізавета Мукасей. Справа ў тым, што я напісаў ліст да слонімскіх уладаў з прапановай вызначыць мне памяшканне для правядзення сваёй персанальнай выставы. Пасля я закончэння частку работ я падараваў бы Слоніму. Але Мукасей прапанавала такое месца ў Жыровічах, бо ў горадзе яго, маўляў, няма.

Мне вельмі не хацелася б, каб гэтыя мае работы трапілі ў Расію (у Зорны гарадок, адкуль ёсць прапановы). Бо я найперш патрыёт сваёй роднай Слонімшчыны. Дзеля яе я шмат чым ахвярую. Напрыклад, я практычна ахвярую сваім аўтарскім ганарарам за работу над помнікам Сапегу. Іншага выйсця няма, бо кажуць, што не хапае грошай.

Але хочацца верыць, што ўсе праблемы будуць пераадолены, і помнік Льву Сапегу з'явіцца на цэнтральнай плошчы Слоніма.

**Сяргей ЁРШ**

**Іван Якімавіч Міско — чалавек, вядомы не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах свету. Знакаміты скульптар праславіўся серыяй сваіх работ — партрэтаў касманаўтаў. Дарэчы, апошнія часта наведваюць яго ўтульную майстэрню ў Мінску на Інтэрнацыянальнай вуліцы. Пра гэтыя візіты сведчаць аўтографы касманаўтаў, пакінутыя фламасцерам на дзвярах кабінета Івана Міско. Сярод іх ёсць і аўтографы вядомых беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, спартсменаў, палітыкаў. Ёсць тут і надпіс, зроблены рукою Аляксандра Лукашэнкі 25 сакавіка 1992 года. Тады ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета...**



Фото IREX/ProMedia

ДЗЕНЬ АБАРОНЦА АЙЧЫНЫ

# БЕЗ ПРАВА НА ПАМЫЛКУ

Тым не менш на працягу 1998 года воіны сапёрнага батальёна 11 механізаванай брыгады выканалі 71 заяўку ваенкаматаў сямі раёнаў Гродзенскай і Брэсцкай абласцей і абясшкодзілі за гэты час 265 выбухованебяспечных прадметаў.

— Чым вымяраецца праца сапёра? — з такім пытаннем карэспандэнт "ГС" звярнуўся да начальніка інжынернай службы брыгады падпалкоўніка Мікалая Папова.

— Самае галоўнае, — сказаў падпалкоўнік Папоў, — што за апошнія гады на замацаванай за нашымі сапёрамі тэрыторыі не адбылося ніводнага няшчаснага выпадку. І гэта вынік той прафілактычнай работы, якую праводзяць камандзіры груп размініравання капітан Мікалай Палуянаў і старшы прапаршчык Уладзімір Лямзін. Яны тлумачаць жыхарам аб небяспецы, якую тояць у сабе іржавыя выбуховыя "гасцінцы".

— Асабліва шмат работы падчас веснавой сяўбы і асенняга ворыва, — сказаў Мікалай Папоў. Часта з-пад плугоў "усплываюць" на паверхню міны, снарады, гранаты і нават авіябомбы. І рэдка які дзень праходзіць, каб дзве спецмашыны з надпісам "Размініраванне" не выязджалі ў рэйс.

Мінулай восенню паступіў тэлефонны званок, што падчас ворыва ў адным з калгасаў Пружанскага раёна механізатар убачыў за трактарам дзве мінамётныя міны. Група размініравання на чале з Уладзімірам Лямзіным тэрмінова выехала па ўказаным адрасе. Пасля абследавання поля, было знойдзена яшчэ 15 мінамётных мінаў часоў мінулай вайны. Небяспечная знаходка была ліквідавана на месцы.

Наступны выезд быў у вёску Уласы Баранавіцкага раёна, дзе на бульбяным полі жанчына "выкапала" 152-міліметровы артылерыйскі снарад.

У кожнай прафесіі існуюць свае правілы. І тое, што сапёр памыляецца толькі адзін раз — не пустыя словы. Менавіта таму галоўнае патрабаванне начальніка інжынернай службы да сваіх падначаленых — ніколі не адступаць ад літары інструкцыі і не спяшацца. Па словах Мікалая Папова, асабліва важна вызначыць "узрост" знаходкі, ступень яе пашкоджання і магчымасць дастаўкі да месца ліквідацыі. Найбольшую небяспеку ўяўляюць снарады і мінамётныя міны, якія выйшлі з каналаў стваloў, але па нейкіх прычынах не ўзарваліся.

Пра адзін такі выпадак расказаў камандзір сапёрнага батальёна маёр Сяргей Федасюк. Двое пажылых жыхароў Баранавіцкага раёна капалі бульбу на сваім агародзе і натыкнуліся на гранаты. Прыбыўшая на месца група размініравання ўстанавіла, што вывозіць знойдзеныя гранаты небяспечна. Аднак і ўзрываць іх на месцы таксама было нельга. Таму нічога не заставалася, як транспарціраваць небяспечную знаходку за межы населенага пункта. Смяротны груз быў пагружаны ў скрыні з пяском, і ваенны шафёр Аляксандр Дубак даставіў яго да месца знішчэння.

Пра "не спяшайся" воіны групы размініравання пад камандаваннем капітана Мікалая Палуянава памяталі, калі некалькі месяцаў назад выязджалі па выкліку ў Баранавічы. Двое сутак сам камандзір групы і яго падначаленыя каля авіярамонтнага завода знаходзілі снарады і міны, якім, здаецца, не было канца. Больш як сто выбухованебяспечных прадметаў абясшкодзілі тады слонімскія сапёры.

Сапраўднымі прафесіяналамі назваў падпалкоўнік Папоў малодшага сяржанта Мікалая Цыганкова, радавога Мікалая Байбака, радавога Аляксандра Дубака і іншых.

Акрамя баявой падрыхтоўкі і размініравання сапёры ўдзельнічаюць у ліквідацыі наступстваў стыхіі. Так, у мінулым годзе воіны сапёрнага батальёна на працягу двух месяцаў прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў урагану непадалёку ад пасёлка Целяханы Брэсцкай вобласці. А ў час веснавой паводкі яны ліквідуюць лёдавыя заторы ля мастоў праз рэкі.

— Вельмі крыўдна, што шмат часу і сіл прыходзіцца траціць на выезды па ілжывых паведамленнях аб замініраванні, — гаворыць Мікалай Папоў. — Толькі ў 1999 годзе такіх выпадкаў было ўжо 7, з іх 6 прыпадае на Слонім. І тым не менш, мы на першаму выкліку заўсёды гатовы выканаць свой абавязак. Такая наша служба! — запэўніў ён.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



Фота Мікалая СУПРУНА

***НА ЗДЫМКУ сапёры: радавы Мікалай Байбак, ст.прапаршчык Уладзімір Лямзін, капітан Мікалай Палуянаў, мал.сяржант Мікалай Цыганкоў***

НАВІНЫ

## Падвялі вынікі і ўзнагародзілі

**У Гродзенскім абласным драмтэатры адбылося пасяджэнне калегіі абласнога ўпраўлення культуры.**

Яго загадчыца Людміла Кадзевіч падвяла вынікі працоўнай дзейнасці ўстаноў культуры вобласці за мінулы год і ўзнагародзіла лепшых работнікаў гэтай галіны.

Грашовыя прэміі і граматы атрымалі мастацкі кіраўнік Чамяроўскага сельскага дома культуры Алена Захарава, артыстка Слонімскага драмтэатра Ірына Яцук, дырэктар РДК Мікалай Адамчык і дырэктар краязнаўчага музея Ірына Шпыркова.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Маланка ў лютым

**Ад яркай успышкі маланкі на некалькі хвілін патух экран тэлевізара ў кардыялагічным аддзяленні райбальніцы.**

Гэта незвычайная для зімы з'ява прыроды была зафіксавана ў Слоніме 17 лютага, калі людзі глядзелі па тэлевізару чарговую серыю "Вечная клічу". Адметна і тое, што бліскавіца з'явілася падчас густога снегападу.

## Абеды з Жэневы

**Трыццаць дзяцей рознага ўзросту з малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў Слоніма бясплатна абедаюць у кафэ "Шчара" з першага лютага гэтага года.**

Як паведаміла старшыня слонімскага аддзялення таварыства Чырвонага Крыжа Вольга Гаўлоўская, сродкі на харчаванне дзяцей паступаюць з Міжнароднай федэрацыі Чырвонага Крыжа з Жэневы.

Па яе словах, да канца 1998 года таварыства Чырвонага Крыжа павінна забяспечыць бясплатнымі абедамі ўсіх маючых у гэтым патрэбу школьнікаў горада.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## УВАГА! КОНКУРС "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?" ад "Kodak-ЛЮКС"

Здравствуйте, редакция "Газеты Слонімскай!"

По-моему, у вас все хорошо — ведь газета не устает от новых идей, новостей, конкурсов. А мне очень нравятся практически все рубрики газеты, а особенно — конкурс "Што б гэта значыла?".



**Лариса КОЗЛОВА,**
**д.Партизановка,**
**Слонимский район**

Нам остается только добавить, что конкурс продолжается. Ждем от вас, уважаемые читатели, оригинальные подписи и фотоснимки. А сегодня публикуем ваши подписи к снимку, который был напечатан в №7 "ГС".

***
Хоть чуть-чуть,
Ну хоть немного,
"Закошу" я под "крутого".

***
Мы с бабулею вдвоем
Утром в магазин идем,
Сумку "Мальборо" достал,
Да в ней кукиш ночевал.
***Светлана Болтик***

***
Со своей бабусею
Ну и накурюсь я!
***Евгений Скробутан***

***
С зарубежья дедушка
С бабушкой идут,
Внуку контрабандное
"Мальборо" несут.

***
Дед на слонимский рынок
С "Мальборо" пошел,
Ну, а бабка следом,
Чтоб другую не нашел.
***Юрий Яговдик***

***
Все на Запад "косят" лихо,
Ну, а я чем хуже их то?
***Тамара Крупская***

***
Я — дед Иван,
рядом — баба Анюта,
А в сумке моей — СКВ.
Да, валюта!
***Лариса Козлова***

***
Миленький ты мой,
Возьми меня с собой!
Там, в краю далеком,
Буду тебе женой.
***Елена Случко***

***
Нынче очень дорого
"Мальборо" курить,
Так хоть сумку с надписью
Стану я носить.
***Елена Солдаткина***

***
Сумку "Мальборо" купил,
Хожу и "хипую".
Уже старушку "подцепил",
А мне бы — молодую.
***Александр Козловский***

***
Дзед Мікола з бабай Валяй
Пабывалі на Гавях...
***Ганна Глечыкава***

***
Куда идем мы с муженьком,
Большой-большой секрет.
На "комаровку" за вином?
О нет, о нет, о нет!
***Наталия Бошко***

***
Эх, жыць не ўміраць,
З такім дзедам
гуляць ды гуляць!
***Таццяна Тарасік***

***
Если ваш муж начал следить за модой, начинайте следить за мужем.
***Елена Шевчик***

***
Сын у Амерыцы жыве,
А дачка ў Ізраілі.
А мы з бабкай у Слоніме
Ходзім, быццам фраеры!

***
Дзедка, любы, пачакай!
У замежжа не ўцякай!
***Таццяна Лысуха***

***
— Ты куда, Алексей, от жены,
от детей?
— Шла бы ты домой, Пелагея!

***
Иди за мной, бабка,
Иди за мной, Любка,
Ты со мной не пропадешь,
Сизая голубка!
***Лилия Прудникова***

***
Говорила ж тебе, старый,
Чтоб талоны отоварил.
Вот теперь иди домой
С модной сумкой, но пустой.

***
Уйди, старуха. Я — в печали,
Ведь ничего нам не подали.
***Наталья Эгерд***

***
Як пагнала бабулечка
Дзеда за "граніцу",
Каб купіў не "Мальбара",
А модную спадніцу.
***Дзяніс Прысняк***

***
Пакахала баба дзеда,
Думала багаты.
— Ах ты, ёлупень стары,
Марш хутчэй дахаты.
***Таццяна Кучун***

***
Что ты, дедушка, "крутой"?
Сумка заграничная.
Глянь, подруженька с тобой
Очень симпатичная.
***Ирина Беглик***

***
У госці да дзяцей сваіх
Ехалі на электрычцы,
Назад грошай не хапіла —
Пешшу йдзем па звычцы.
***Сяргей Якімчык***

***
Бабушка с дедушкой
рядышком
Много лет, много лет вместе...
***Виктор Новоселов***

***
Я иду по холодной улице,
И несу эту сумку
торжественно.
Моя баба чего-то хмурится,
Что она понимает,
женщина...
***Светлана Козлова***

***
Были комсомольцами,
Были коммунистами,
А теперь в своей стране
Стали "интуристами"
***Дмитрий Миронов***

***
Яны спяшаюцца ў XXI стагоддзе...
***Ірына Абуховіч***





Фота Мікалая СУПРУНА

*Што б гэта значыла? (№9)*

# ГОРОСКОП

## С 25 ФЕВРАЛЯ ПО 3 МАРТА



**ОВЕН**

Бурный расцвет нового чувства. Увлечение может быть столь сильным, что разрушит прежние устоявшиеся отношения. Будьте настороже в деловых контактах - возможно вовлечение в не совсем законную сделку. На работе, невзирая на повышенную конфликтность, хорошие результаты.



**ТЕЛЕЦ**

Со 2-го марта вы будете готовы к принятию глобальных решений и созданию стратегических планов. С начала этого месяца и практически до конца апреля - благоприятный период для инвестирования крупных сумм. Обновление эмоций, хорошее настроение.



**БЛИЗНЕЦЫ**

Проблемы, которые не были решены в предыдущие 2-3 недели, дадут о себе знать с новой силой. Вам лучше отказаться от любых поездок, ограничить круг общения и больше времени проводить с детьми и родственниками.



**РАК**

26-27 февраля вы можете "поработать" экстрасенсом: не исключены вещие сны, возможность увидеть невидимое, способность разгадать тайное, обнаружить ,наконец, явных противников. Будьте готовы к тому, что ваша особа окажется в центре внимания.



**ЛЕВ**

Начало весны особенно сильно подействует на августовских Львов: повысится агрессивность и нежелание следовать разумным советам. Отсюда возможны потери или обман ваших ожиданий. Придется много потрудиться и на собственный имидж.



**ДЕВА**

Это период, когда ваша репутация больше будет работать на вас, чем вы на нее. Ко многим придет признание (вполне заслуженное) за какую-то благополучно завершенную работу. Никаких сердечных потрясений не предвидится, разве что приятная встреча в выходные дни.



**ВЕСЫ**

Предстоят небольшие изменения служебного характера, возможно повышение зарплаты или перевод на новую должность. "Сюрприз" преподнесет партнер из знаков Рак или Скорпион, но не огорчайтесь, эти люди умеют исправлять свои промахи.



**СКОРПИОН**

Период разделиться на две противоположные по настроению и событиям половинки . Начнется он с суеты, меланхолии и нежелания работать, а завершится прекрасными новостями, душевным подъемом и упрочением финансового положения.



**СТРЕЛЕЦ**

Возможна командировка, в том числе и за рубеж. Небольшие траты немедленно будут возмещены случайными доходами. Многие Стрельцы окажутся перед дилеммой: или принять предложение и лишиться части свободы, или остаться абсолютно независимым.



**КОЗЕРОГ**

Холостым Козерогам нужно наконец определиться с выбором партнера, потому что есть опасения остаться у разбитого корыта. Стабильное финансовое положение, возможны даже поступления, превышающие ожидания.



**ВОДОЛЕЙ**

Февральские Водолеи могут за пару дней потерять все, что нарабатывали последние полгода, а январских - захватят новые сердечные страсти. Но в любом случае период не будет скучным. Вам следует быть особенно осторожными 2-4 марта.



**РЫБЫ**

Чувства будут преобладать над разумом, и возможно совершение нескольких роковых ошибок. Обратите внимание на проблемы близких людей, они ждут от вас действий, а получают лишь обещания и жалобы. Возврат долгов. Неожиданная встреча с прошлым.



## АНЕКДОТЫ

☺ Два алкоголика стоят у гроба своего кореша.

- Смотри Вася, какой Петя сегодня красивый!

- Конечно! Он же третий день уже не пьет!

☺ Умерла у Петрова жена. Приходит он в газету объявление давать. Заплатил по минимальному тарифу и дает текст: «Люся умерла». Ему говорят:

- Но за минимальную цену вы можете дать четыре слова.

- Тогда добавьте: «Продам Москвич».

☺ Объявление: «Женщина 75 лет ищет место технички. Интим не предлагать».

☺ - Лейтенант Петров!

- Так точно!

- Хотите получить старшего лейтенанта?

- Хочу, товарищ майор!

- Берите документы и получите старшего лейтенанта Иванова из вытрезвителя.

☺ Утром жена подает мужу кофе в постель. Через некоторое время из спальни доносится жуткий крик. Жена из кухни спрашивает:

- Дорогой, что случилось?

- А-а-а-а!!! Я обжегся!!! А-а-а!!! Я кофе на себя пролил!!! А-а-а!!!

- Дорогой, не кричи так. Потерпи немного. Сейчас я сделаю еще кофе!

☺ Стоит у зеркала старый мужик. Ноги тонкие, кривые, волосатые. Животик впалый. Ручки худенькие, глазки маленькие, нос крючком, сам лысенький. Смотрит на свое отражение, а сзади него на кровати лежит молодая красивая жена. Мужик оборачивается и говорит ей с укоризной:

- Господи! Это же надо так деньги любить!

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

| | |
|---|---|
| Лагачоў Мікіта | Крэчка Юля |
| Кавалеўскі Кірыл | Мікідон Вольга |
| Чубараў Руслан | Саваш Ксенія |
| Рысік Алег | Гвай Маргарыта |
| Семяновіч Наталля | Ашэка Наталля |



**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны шлюбы:**

Кутавая Вольга і Лысенка Дзмітрый
Кіслая Наталля і Ёрш Валерый
Гародка Таццяна і Паўлючэнка Дзмітрый
Кляшчэўнікава Наталля і Ломпік Мікалай
Несцяровіч Ірына і Корзыкаў Павел
Цвікевіч Таццяна і Багданік Дзмітрый
Чубарава Вольга і Церпілоўскі Дзмітрый



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Ахрамук** Любоў Яўстаф'еўна | 1910 г.н. |
| **Іваноў** Васіль Пятровіч | 1941 г.н. |
| **Ерамейчык** Уладзімір Канстанцінавіч | 1927 г.н. |
| **Кожына** Алена Міхайлаўна | 1910 г.н. |
| **Вашкевіч** Аляксандра Рыгораўна | 1925 г.н. |
| **Барысік** Вольга Андрэеўна | 1926 г.н. |
| **Цярэшчанка** Ніна Віктараўна | 1912 г.н. |
| **Бурбо** Казімір Іванавіч | 1927 г.н. |
| **Юргелевіч** Віктар Пятровіч | 1949 г.н. |
| **Сідарэнка** Рыгор Аляксандравіч | 1917 г.н. |
| **Бандарэнка** Яніна Пятроўна | 1930 г.н. |
| **Шляхценка** Вера Сцяпанаўна | 1944 г.н. |

✝

Выражаем глубокую благодарность и признательность администрации СКПФ и работникам прядильного цеха, бывшим работникам ателье "Ландыш", всем родным, близким, друзьям, знакомым и соседям, а также семье Загнеткиных, которые в трудную минуту помогли морально и материально в похоронах **Еремейчика** Владимира Константиновича.

***Семьи Шипуль, Еремейчик***

## ВОЕННЫЙ КРОССВОРД

*от Владимира Вашуты*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** **5**. Род войск. **6**. Навигационный прибор. **9**. Русский конструктор стрелкового оружия. **11**. Торжественный смотр войск. **12**. Сумка с гнездами для ружейных потронов. **15**. Советский военный летчик, совершавший в воздушных боях 4 тарана. **18**. Фитильное крупнокалиберное ружье, изобретенное в 16 веке. **19**. Воинское звание. **20**. Маршал Советского Союза, герой гражданской войны. **21**. Голландский матросский танец. **24**. Воинское звание. **26**. Взрывчатое вещество, применяемое в детонаторах. **27**. Пуля с зарядом и капсюлем, заключенные в гильзе. **31**. Воинское звание. **33**. Аэродромное сооружение. **34**. Взрывчатое вещество. **35**. Построение в шеренге по росту. **36**. Вид боеприпасов для стрельбы из артиллерийских орудий.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** **1**. Краткое выражение руководящей идеи. **2**. Должность в казачьих войсках. **3**. Командир Сумского партизанского соединения в Великую Отечественную войну. **4**. Способ воздушного боя. **7**. Отряд пограничной охраны. **8**. Легендарный герой гражданской войны. **10**. В средние века — венгерская пехота. **13**. Конное войско. **14**. Навигационный прибор для автоматической записи курса судна. **16**. Заслуженный опытный воин. **17**. Группа судов, выполняющая общую задачу. **22**. Линейный корабль. **23**. Высадка войск на вражескую территорию. **25**. Металлический стержень для чистки и смазки оружия. **28**. Казачий офицерский чин в царской армии. **29**. Специально изготовленная цель для упражнения в стрельбе. **30**. Воспламенитель основного заряда. **32**. Матрос.



**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№8)**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** **4**. Пескарь. **5**. Макаренко. **7**. Толстой. **14**. Балатон. **15**. Док. **16**. Бастион. **19**. Старт. **20**. Хронограф. **21**. Обрат. **22**. Баллада. **23**. Бич. **24**. Регресс. **27**. Педагог. **28**. Бутафория. **30**. Персона.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** **1**. Дакар. **2**. Пенкроф. **3**. Фронтон. **6**. Пластилин. **8**. Смородина. **9**. Астрограф. **10**. Каравай. **11**. Колхида. **12**. Памфлет. **13**. Домрист. **17**. Кол. **18**. Бра. **25**. Рентген. **26**. Сопрано. **29**. Фасад.

